


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

30 жніўня 2002 года
№ 35 (384)
Выходзіць па пятніцах

Панас Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёна**

## Новая школа

**СМАРГОНЬ**. 2 верасня адбудзецца ўрачыстае адкрыццё школы №7.

Пакуль гэта пачатковая школа, бо пабудавана толькі частка будынка. Прыкладна 180 школьнікаў будуць вучыцца ў дзве змены.

У наступным навучальным годзе, мяркуецца, навучаць і старшакласнікаў. Будоўля не спыніцца. Як сказаў загадчык раённага аддзела адукацыі Валерый Бацько, гэта зусім не будзе перашкаджаць навучальнаму працэсу.

**Ірына РАБУШКА.**

## Пастаянны «кліент» магазіна

**МЯДЗЕЛ**. Жыхар вёскі Баравікі пранік у магазін у сваёй вёсцы і прыхапіў адтуль спіртное і цыгарэты.

Аказалася, што мужчына быў раней судзімы, і прытым за абрабаванне гэтага ж магазіна! Вызваліўся толькі ў снежні мінулага года, але зноўку пацягнула ў любімае месца. У яго доме знойдзена частка скрадзенага, а сам ён знаходзіцца ў вышуку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Перастаноўкі ў сістэме адукацыі

**АСТРАВЕЦ**. Загадчыцай Астравецкага раённага аддзела адукацыі прызначаная **Лілія Янкоўская**, якая да гэтага працавала дырэктарам у Астравецкай СШ №2.

Былы загадчык **Уладзімір Булавіцкі** пайшоў з пасады па ўласнаму жаданню. Цяпер ён працуе ў Белдзяржстраху.

Дырэктарам Астравецкай СШ №2 стала **Вольга Лябедская**, якая раней працавала намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце.

**Ірына РАБУШКА, Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Міністр прыехаў

**МАЛАДЗЕЧНА**. 29 жніўня ў Маладзечна прыехаў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ураджэнец Куранца **Аляксандр Мількота**.

Ён прыме ўдзел у калегіі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі, што пачалася ўчора і прадоўжыцца сёння.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Адмена электрацягнікоў



30 жніўня адмяняюцца электрапаязды адпраўленнем з Маладзечна ў 15-08 і прыбыццём з Мінска ў 14-24.



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 31 жніўня

**Мінск**
11°С (уначы)
23°С (удзень)



**Вільня**
9°С (уначы)
24°С (удзень)



Нядзеля, 1 верасня

**Мінск**
9°С (уначы)
22°С (удзень)



**Вільня**
9°С (уначы)
22°С (удзень)



# Вось і лета прайшло...

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 верасня, у першы дзень новага навучальнага года, адбудзецца ўрачыстае адкрыццё СШ №14. Каля 1200 жыхароў шостага і дзесятага мікрараёнаў стануць першымі навучэнцамі новай школы.**

На гэтым тыдні ў школе яшчэ кіпіць работа: ставіцца мэбля, добраўпарадкуецца тэрыторыя. Школу будуюць усім светам: працуюць не толькі будаўнікі, але і бацькі будучых вучняў, самі вучні, настаўнікі.

Вучыць у школе ёсць каму – педагагічны калектыў школы ўкамплектаваны поўнасцю. Ён будзе самым маладым у горадзе.

Рабочы дзень у дырэктара школы **Раісы Казановіч** цяпер пачынаецца з шасці гадзін раніцы. На пытанне, ці не сніцца ўжо школа, адказала, што цяпер амаль не спіць.

За апошнія паўгода дырэктар школы пахудзела на 15 кілаграмаў. Вельмі стройная жанчына. Смяецца:

– Хутка трэба будзе ў "Дзіцячы свет" за адзеннем ісці.

Большая частка школьнікаў перайшла ў новую школу з пятай, восьмай, адзінаццатай і дванаццатай школ, бо менавіта яны раней былі размеркаваны за гэтым раёнам. Малодшыя ж класы пераходзілі цалкам разам з настаўнікамі. Сярэднія і старэйшыя класы ў школе зборныя. У чэрвені СШ №14 адсвяткуе першы выпускны вечар, калі вучні адзінага пакуль адзінаццатага класа атрымаюць атэстаты.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Школу ў шостым мікрараёне будуюць усім горадам. Запрашаюць на дапамогу работнікаў іншых школ. 28 жніўня, поўдзень. Прыбіральшчыца з восьмай школы Вера Бахмецьева таксама аказалася ў ліку валанцёраў.**

■ **ГАНДАЛЬ**

# Мясцовыя тавары — у кожную краму

**МАЛАДЗЕЧНА. Страты ў паловы гарадскіх гандлёвых прадпрыемстваў і напаўненне прылаўкаў магазінаў таварамі мясцовай вытворчасці. Такія праблемы абмяркоўваліся на "круглым стале" з удзелам кіраўніцтва гарвыканкома і буйнейшых гандлёвых арганізацый.**

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** сказаў, што няма аб'ектыўных умоў для таго, каб гандаль працаваў са стратамі. Па выніках работы за 9 месяцаў гарвыканком разгледзіць паказчыкі ўсіх прадпрыемстваў. Стратным пагражаюць "самыя неадкладныя меры".

Наконт другой праблемы Яфім Ідэльчык паведаміў, што гарвыканком падрыхтаваў распараджэнне, у якім усім суб'ектам гаспадарання, што займаюцца розьнічным гандлем, рэкамендуецца ў асартымент тавараў уключаць прадукцыю мясцовых вытворцаў. Прытым за кожным гандлёвым суб'ектам для кантролю будзе замацаваны адказны работнік гарвыканкома.

Аргументы за такое распараджэнне наступныя: мясцовыя вытворцы напаўняюць бюджэт горада, і калі спажывец падтрымае мясцовага вытворцу, ён падтрымае і горад. На прылаўках магазінаў спажывец павінен бачыць прадукцыю розных вытворцаў, і ў яго ёсць абсалютная свабода выбару, што купляць. Але пажадана, каб у гэтым выбары абавязкова ўдзельнічалі і маладзечанскія тавары.

Кіраўнікі "Маладзечнагандлю", гандлёвага дома "Няміга-Маладзечна", "Дзіцячага свету", магазінаў "Алекор" гаварылі, што не супраць гандляваць і гандлююць мясцовымі таварамі. Але ў іх ёсць некалькі пытанняў да кіраўніцтва мясцовых прадпрыемстваў, асабліва тых, хто вырабляе харчовыя тавары.

Па-першае, вытворцы пастаўляюць не ўвесь свой асартымент. Па-другое, часцяком мясцовыя тавары даражэйшыя за айчынныя і імпартныя аналагі. Пакупнікоў прыцягвае яркая і зручная ўпакоўка. Гандлярам хацелася б бачыць тут больш прагрэс з боку вытворцаў. Моцную канкурэнцыю магазінам складаюць базары. Цэны там, у сярэднім, на 15-20% ніжэйшыя. Адной з прычын такога гандляры бачаць у недасканаласці палітыкі цэнаўтварэння ў нашай краіне. Але Яфім Ідэльчык зазначыў, што на арганізаваны гандаль можа прыцягнуць да сябе пакупніка выдатным абслугоўваннем і гарантаванай якасцю прадукцыі. А рынкі закрываць ніхто не будзе. Здаровая канкурэнцыя будзе толькі на карысць пакупнікам.

### Каментарый

Здавалася б, вытворчыя прадпрыемствы павінныя самі выходзіць на гандляроў. Але калі паглядзець, чым гандлююць прадпрымальнікі, то ўбачым, што большасць харчовых прадуктаў там – імпартнай вытворчасці. Бо айчынныя часцяком неканкурэнтныя з-за высокай цаны. А прадпрымальнікам няма розніцы, чым гандляваць. Галоўнае, каб прыбытак быў.

Харчовым прадпрыемствам горада выгадней выпускаць менш прадукцыі – страты будуць меншыя. Прыкладам, паўкілаграма пельменяў вытворчасці мясакамбіната каштуюць звыш дзвюх тысяч. Расійскія можна купіць за 1300-1400 рублёў. Дык навошта мясакамбінату тыя пельмені? Ён іх і не выпускае.

Каб ажывіць мясцовую вытворчасць, трэба пераабсталяваць прадпрыемствы. Прыкладам можа быць Брэсцкі малочны камбінат, прадукцыя якога папулярная ў Маладзечне. Але гэта зрабіць будзе складаней, чым усімі сіламі прасоўваць цяперашнія тавары. Тут ёсць над чым падумаць і ў гарвыканкоме, і на прадпрыемствах.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Спаборнічалі прадаўшчыцы

**МЯДЗЕЛ. Конкурс маладых прадаўцоў адбыўся ў райцэнтры.**

Удзельнічалі 5 прадаўшчыц з мядзельскіх магазінаў. Першае месца заняла **Ганна Мітуневіч** з Дома гандлю, а прыз сімпатый гледачоў дастаўся **Вользе Галіеўскай** з універмага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## Старому парку – новы выгляд

**МЯДЗЕЛ. Папрыгажэў стары графскі парк у Камарове. На яго тэрыторыі навялі парадак, разбілі газоны і заклалі кветнікі.**

Насенне і саджанцы прывезлі з цэнтральнага Батанічнага сада. Яшчэ зрабілі гравійныя дарожкі і масткі праз рэчку Бабр0ўня. Пачысцілі і саму рэчку. Ажыццявіла праект грамадскае аб'яднанне «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю». Працавалі ў парку работнікі і навучэнцы мясцовага сельскагаспадарчага ліцэя, школы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Падарункі дзецям

**ВІЛЕЙКА. У аўторак прайшла акцыя "Пара ў школу".**

Дзесяць прадпрыемстваў і арганізацый выдзелілі грошы на набыццё канцтавараў. Іх падарылі сарака шасці няпоўным сем'ям, у якіх выхоўваецца па два ці тры школьнікі. Сярод іх шэсць дзяцей – сацыяльныя сіроты.

**Ірына РАБУШКА.**

■ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК

## Гаворым па-беларуску

**Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з 1 верасня аб'яўляе месячнік беларускай мовы.**

Вось што гаворыцца ў звароце ТБМ:

"Большасць з нас ведае родную мову – тытульную мову нашай дзяржавы. Але пра нас гавораць: беларус – гэта нямы, гэта той, хто баіцца размаўляць на сваёй роднай мове.

Кожны сам можа стаць узорам абаронцы мовы для родных, блізкіх, сяброў і прыяцеляў. Павітайся па-беларуску, скажы калегу ці суседу ранкам "Дабрыдзень", увечары па-беларуску развітайся, скажы "Дабранач". Прачытай свайму дзіцяці на роднай мове добры вершык. Можа, ён яго вывучыць. Напішы знаёмаму паштоўку ці ліст па-беларуску. Ці пры аплаце камунальных рахункаў запоўні па-беларуску квіток. Падзякуй чалавеку за добрую справу на роднай мове.

Табе ёсць чым ганарыцца. Гэта на тваёй мове, мове тваіх дзядоў размаўляў і друкаваў кнігі Францішак Скарына, а ён быў больш разумны, чым мы.

Памятай пра лепшых. Будзь сам сабой. Будзь першы".

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ТРАДЫЦЫІ

# Часта лёс сям'і відаць з першай сустрэчы

**ВІЛЕЙКА. Не менш за 4000 шлюбаў зарэгістравала за сваё жыццё загадчыца Вілейскага ЗАГСа Марыя Вялічка.**



Фота Ірыны РАБУШКІ

**Загадчыца Вілейскага ЗАГСа Марыя Вялічка.**

Гісторыю сваю Вілейскі ЗАГС вядзе з 1944 года. Дзе толькі не туліўся ён за 58 гадоў! Напрыклад, больш за дваццаць гадоў месціўся ў будынку домакіраўніцтва, потым касцёла, Дома культуры, станцыі "хуткай дапамогі", міліцыі. Чацвёрты год рэгіструюць шлюбы ў выставачнай зале мясцовага музея.

У рэшце рэшт Вілейскі ЗАГС займеў сваё памяшканне – былы магазін "Адзенне". Многія гараджане і прыезджыя і цяпер прыпамінаюць, як тут можна было набыць розныя дэфіцытныя тавары – адзенне, халадзільнікі. Да сённяшняга дня за гэтым заходзяць.

Новае памяшканне ЗАГСа амаль падрыхтаванае да сезона восеньскіх вяселляў. Будаўнічыя работы вяліся з 1998 года. Засталіся апошнія штрыхі.

Дваццаць чацверты год кіруе ЗАГСам Марыя Вялічка.

**– Марыя Юльянаўна, Вы не знаходзіце, што магазін і ЗАГС у нечым падобныя?**

– Нешта ёсць. Толькі ў магазін прыходзяць за патрэбным, а ў ЗАГС – за неабходным.

**– Па статыстыцы ў Беларусі кожны другі шлюб распадаецца. А на Вілейшчыне?**

Гэтая статыстыка разводаў ніякага дачынення да Вілейкі не мае.

Напрыклад, са шлюбаў, якія заключаліся дваццаць гадоў таму, распаўся кожны пяты, дзесяць год – кожны трэці, два гады таму – кожны дзесяты.

**– Можаце прадбачыць, як складзецца лёс новаспечанай сям'і? Ці заключаеце фіктыўныя шлюбы?**

– Часта лёс пары відаць з першай сустрэчы, калі яшчэ жаніх і нявеста падаюць заяву. Прычым рэдка памыляюся наконт "нешчаслівых" сем'яў. З дакладнасцю да 75% магу сказаць, што сям'я будзе шчаслівай.

Што тычыцца фіктыўных шлюбаў, то нам пра гэта ніхто не расказвае.

**– Якая адметнасць у цяперашніх жаніха і нявесты?**

– Нявесты ўсё такія ж прыгожыя. Многія памаладзелі. Раней у 16 гадоў таксама замуж выходзілі, але гэта было з'явай. Зусім не магу прыпомніць, каб жаніліся ў юным узросце. Прычына ранніх шлюбаў адзіная – цяжарнасць жанчыны. Бывае, удзень вяселле гуляюць, а вечарам ужо дзіця нараджаецца.

Наогул, маладыя цяпер сталі больш раскаваныя. Ды і іх бацькі таксама. Маці з гонарам могуць сказаць: "Вось мая ў 16 гадоў дзіця чакае!".

**– Як ставіцеся да вянчання? Чаму яно не мае такой сілы, як дзяржаўны шлюб?**

– Я не супраць вянчання. Яно дае маладым упэўненасць адзін у адным. Але чалавек павінны шчыра прыйсці да бога. Напрыклад, мой сын абвенчаны. Для гэтага ён пахрысціўся ў 20 гадоў. Цяпер некаторыя вянчаюцца дзеля моды.

Большая сіла за дзяржаўным шлюбам з-за таго, што царква аддзеленая ад дзяржавы. Афармленне дакументаў – усё ж такі дзяржаўная справа.

**– Шмат абрадаў мы страцілі. Якога шкада больш за ўсё? Ці верыце ў розныя вясельныя прыкметы?**

– Хочацца, каб урачыстую цырымонію паўсюдна праводзілі па-беларуску. І яшчэ, каб гасцей заўсёды сустракалі хлебам-соллю. На жаль, і гэта ўжо страчваецца.

А вось каб жаніх дровы сек ці нявеста ляльку спавівала падчас урачыстасці, не абавязкова.

На прыкметы стараюся не звяртаць увагі. Толькі госці вельмі бурна рэагуюць. Маці ледзь не плачуць, калі хтосьці з маладых пярсцёнак упусціць. Такое некалькі разоў на год здараецца.

Мае суб'ектыўнае адмоўнае меркаванне, калі маладых перавязваюць ручніком ці яны становяцца на яго. Бо на ім спакон веку ляжаў хлеб. Але пра гэты абрад і па-іншаму кажуць: "На ручніку стаяць – век адзін аднаго кахаць".

**– Кажуць, з "лёгкай рукі" ўсё атрымліваецца. Вы заключаеце шлюбы. Таму "лёгкая рука" патрэбная, як нікому.**

Нейкая праўда ў гэтым ёсць. Што можа пажадаць той, хто сам не змог стварыць добрую сям'ю. Некалі працавала з незамужняй дзяўчынай, якая рэгістравала шлюбы. Кожны раз пры гэтым плакала. Маўляў, нельга мне распісваць маладых.

Дзесяць гадоў таму наогул ніхто не глядзеў, што ў цябе і як у асабістым жыцці.

Перш за ўсё чалавек павінны мець маральнае права рэгістраваць шлюб.

А на рукі, прыкметы лепш не звяртаць увагі... Адносіцца да жыцця з гумарам. Як тыя жанікі і нявесты ў гіпсе, што прыходзяць рэгістраваць шлюб.

Нядаўна нявеста на мыліцах з паламанай нагой была. Жаніх урачыста "нёс" яе нагу. Не разлічыў крыху, завысока паднаў – нявеста і перакулілася. За што потым яшчэ і мыліцай атрымаў.

**Ірына РАБУШКА.**

**Шлюбы і разводы на Вілейшчыне**

| | Шлюбы | Разводы |
| --- | --- | --- |
| За першае паўгоддзе 2001 года | 167 | 105 |
| За першае паўгоддзе 2002 года | 158 | 112 |



Фота IREX/ProMedia

**Галоўнае ў шлюбе – не машыны, а каб сямейнае жыццё не лопнула, як надзіманы шарык.**

■ ПАРТРЭТ

# Чалавек, які нешта стварае, а не разбурае

**АШМЯНЫ. Не праводзіў спецыяльнага апытання, але ўпэўніўся, што большасць ашмянцаў ведае Пятра Явідовіча. Хаця адназначнай ацэнкі яго працы не чую. Камусьці падабаецца, што робіць Пётр, а камусьці – не.**



Фота з архіва Пятра ЯВІДОВІЧА

**Студэнт Віленскага універсітэта, прадпрымальнік, мастак, старшыня незарэгістраванага інфармацыйна-тэхнічнага цэнтра «Рэгіён» Пётр Явідовіч ва ўласнай майстэрні.**

### Арганізатар

Вось што хацеў бы пачуць пра сябе сам Пётр:

– Калі маё імя будуць ведаць нашчадкі, то я хацеў бы, каб яны казалі, што Пётр Явідовіч – гэта чалавек, які нешта ствараў, а не разбураў. Мы з камандай маладых людзей стараемся нешта ствараць, даём усім магчымасць для самавыяўлення.

Доказам гэтых слоў служаць некалькі праектаў, якія арганізаваў Пётр. Прыкладам, выдавецкая ініцыятыва. Любы жадаючы можа падрыхтаваць матэрыял пра асобу ці мясціну. І яго можна выдаць невялічкай кніжачкай. Так, падрыхтавана ўжо каля дзесятка брашурак. Пётр іх збірае выдаць тыражом 299 экземпляраў і раздаць у мясцовыя бібліятэкі.

– Усе нашы праекты – некамерцыйныя. І я, і мае паплечнікі займаемся ініцыятывамі ў вольны час. Наконт выдавецтва кніг, то паспрабуем прыцягнуць увагу фондаў, ці бізнесменаў да нашага праекта. Магчыма, яны фінансава падтрымаюць нашую ідэю.

Дарэчы, у Літве я ўдзельнічаў і рэалізаваў некалькі праектаў. Прыкладам, дапамога малазабяспечаным сем'ям, развіццё недзяржаўнага сектара эканомікі Беларусі і Літвы. У гэтай краіне фундатары свабоднай адклікаюцца. А ў Беларусі цяжка нешта зрабіць без удзелу ці дазволу "вертыкалі".

Другі прыклад. Звярнуліся да мяне маладыя людзі з ідэяй адпачыць і прыбраць ля развалін Гальшанскага замка. У ліпені мы з'ездзілі туды. І адпачылі, і прыбралі. У жніўні прыйшлі гальшанскія хлопцы і дзяўчаты. Раней тут рабілі кераміку. Моладзь хоча адрадзіць традыцыі. Дамовіліся з'ездзіць у Івянец. Там працуюць моцныя ганчары. Парэкамендавалі **Антона Пракаповіча**. Прыехалі ў Івянец, а аказалася, што майстар у летні перыяд працуе ў Дудутках. З'ездзілі туды. Спадзяюся, сустрэча з івянецкім майстрам прынясе практычную карысць гальшанскай моладзі.

У мяне ёсць дзесяцігадовы досвед удзелу ў выбарчых кампаніях.

**– Можа, у палітыку пойдзеце?**

– У Беларусі сябе цяжка бачыць у палітыцы – няма тут магчымасці для самавыяўлення. Чаму? Не ведаю. Можа, мяне не разумеюць, можа, я чагосьці не разумею. За мяжой – працей. Мяне ў ліку членаў незарэгістраванага "Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў" маладыя кансерватары Чэхіі запрасілі на конкурс, прысвечаны выбарчай кампаніі. Кліп, які я падрыхтаваў, заняў першае месца. Мяне запрасілі на работу ў Чэхію, але, на жаль, адмовіўся па сямейных абставінах – захварэў бацька. Атрымліваецца, што ідэі лепш рэалізоўваць за мяжой.

### Прадпрымальнік, мастак і студэнт

Калі чуеце ад чалавека, што ён большую частку часу аддае пад некамерцыйныя праекты, то ўстае пытанне – на што ж ён жыве?

– У мяне ёсць свой бізнес – майстэрня па рамонту гадзіннікаў. Але закрываю гэтую справу – падаткі сталі вялікія. Ёсць попыт на мае карціны, у тым ліку і за мяжой. Таму пераводжу дзейнасць на мастацтва. Адкрыў ліцэнзію на дзейнасць у галіне мастацкай творчасці. Змагу свабодна прадаваць карціны.

**– Вы вучыцеся ў Вільні. Чаму вырашылі атрымаць адукацыю за мяжой?**

– Сябры параілі. Ды і ў Літве нейк вальней сябе адчуваеш. Маю сувязі ў беларускім бамондзе Вільні. Яны там жывуць нармальным жыццём. Без лішніх узрушэнняў, якія надта замінаюць тутэйшым. Да таго ж вучоба ў Вільні дае бясплатную літоўскую візу.

**– Літоўскую мову ведаеце?**

– Паступова вучу. І часу вучыць яшчэ ёсць. Пасля заканчэння аддзялення беларускай філалогіі ў педагагічным універсітэце планую паступіць туды ж на аддзяленне "маркетынг антыкварнай справы", якое адкрыецца неўзабаве.

**– Дзе б вы хацелі жыць?**

– Вызначуся пасля заканчэння вучобы. Калі застануся ў Беларусі, то няблага б было стаць міністрам замежных спраў. Каб узнавіць разладжаныя цяпер сувязі з суседнімі і іншымі краінамі. Каб Беларусь усприймалі краінай, у якой ёсць сваё "я".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

 



■ СПРАВЫ ЖАЛОБНЫЯ

# «В этой жизни умереть не ново...»

**МАЛАДЗЕЧНА. Толькі таленавіты паэт, якім, зрэшты, і быў Сяргей Ясенін, змог так вобразна выказаць адносіны да фінішу чалавечага быцця.**

Кожны з нас рана ці позна пакіне гэты свет. І ў тым, што ніхто не здольны адкупіцца ад смерці – сума не мае аніякага значэння, увесці бессмяротнасць дэкрэтам або ўказам, бачыцца мне праява вышэйшай справядлівасці. Перад смерцю роўныя ўсе!

Да любой з'явы, любой падзеі, да смерці таксама, можна адносіцца па-рознаму. Па-філасофску – і шукаць прычынна-выніковыя сувязі. У матэрыяльнай плоскасці – у якую суму яна можа выліцца. Як фаталіст – што будзе, тое будзе. Для знаёмых і суседзяў нябожчыка смерць – падстава яшчэ раз прыгадаць жыццёвы шлях апошняга; для родных і блізкіх – найперш гора, а затым ужо непазбежныя клопаты, звязаныя з пахаваннем. Якія складанасці пры гэтым узнікаюць, што, можа быць, перашкаджае дастойна і без лішніх выпрабаванняў для жывых адправіць чалавека ў апошні зямны шлях? Мёртвым не баліць, баліць жывым.


Мёртвым не баліць, баліць жывым. Фота IREX/ProMedia.

Бюро пахавальнага абслугоўвання УП "Камунальнік", як зазначыла яго загадчыца **Любоў Целешман**, імкнецца аблегчыць боль страты блізкага чалавека, садзейнічаць вартаму пахаванню нябожчыка. Сярод паслуг – выдзяленне месца для пахавання на могілках "Лазавец" і выдача дазволу на падзахаванне на старых, цяпер ужо закрытых могілках у раёне завода парашковай металургіі. Месца для пахавання выдзяляецца бясплатна. Работнікі бюро за пэўную суму (усе паслугі занесены ў прэйскурант) выкапаюць магілу, вынясуць нябожчыка з кватэры, прыбяруць месца пахавання. У бюро можна заказаць на пэўны час катафалк і (альбо) грузавую машыну, афарміць пасведчанне аб смерці і атрымаць дапамогу на пахаванне. Бюро, варта адзначыць, працуе штодзённа, у выхадныя – па скарочанаму графіку. Асноўная недарэчнасць, з якой даводзіцца сутыкацца загадчыцы бюро пры выдзяленні месца для пахавання, – гэта адсутнасць пасведчання аб смерці альбо ўрачэбнай даведкі. Варыянтаў два: адмовіць альбо парушыць інструкцыю.

Гарадская паліклініка, па словах яе загадчыка **Тамары Сіўцэвіч**, па суботах працуе з 9 да 15 гадзін, і атрымаць урачэбнае пасведчанне аб смерці чалавека не складана. Неабходна толькі, каб дадзены дакумент "умяшчаўся" ў рамкі яшчэ аднаго дакумента – інструкцыі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ад 4 красавіка 2002 года, дзе прадугледжаны ўсе моманты выдачы ўрачэбнага заключэння.

Аддзел ЗАГС гарвыканкома таксама з'яўляецца адным са звёнаў сумнага ланцужка. А таму працуе ў рэжыме, які найбольш задавальняе людзей, – з 9 да 18 гадзін штодзённа, акрамя нядзелі. Выкарыстанне камп'ютэра дазваляе апрацаваць неабходныя дакументы за нейкія 15 хвілін. Разам з тым яго загадчыца **Ніна Шарыпава** бачыць шляхі ўдасканалення работы і свайго калектыву, і тых, каму даводзіцца нейкім чынам удзельнічаць у журботным працэсе пахавання. Для Маладзечна, да прыкладу, найбольшай праблемай з'яўляецца прадастаўленне транспарту для дастаўкі нябожчыка да месца пахавання, а таксама перавозкі ўдзельнікаў працэсіі, музычнае суправаджэнне... Без удзелу гарадскіх улад вырашыць яе немагчыма.

Сёлета ў маі Саўмін краіны прыняў пастанову, у якой рэгулюецца парадак выплаты грашовай дапамогі з боку дзяржавы пры пахаванні грамадзян розных сацыяльных груп і ўзростаў. Намеснік начальніка ўпраўлення па працы і сацыяльнай дапамозе гарвыканкома **Галіна Копач** засяродзіла ўвагу менавіта на гэтай акалічнасці. Так, калі паміраe работнік, за дапамогай неабходна звяртацца па месцы яго работы, калі пенсіянер – па месцы выплаты пенсіі. Цэнтр занятасці аказвае дапамогу сям'і зарэгістраванага беспрацоўнага. Права на дапамогу захоўваецца на працягу шасці месяцаў з часу смерці чалавека. У пераліку дакументаў, якія неабходна прад'яўляць у такім выпадку, – пасведчанне аб смерці, даведка ЗАГСа і пашпарт той асобы, якая ўзяла на сябе абавязкі па пахаванню грамадзяніна. Сума дапамогі таксама рэгламентуецца згаданай пастановай. Калі, не дай бог, абрываецца жыццё дзіцяці, то для атрымання дапамогі патрэбна яшчэ прыкладаць пасведчанне аб нараджэнні, а для навучэнцаў – і даведку з навучальнай установы.

"Вузкім" месцам саўмінаўскай пастановы з'яўляецца тое, што яна пазбавіла дапамогі сем'і тых грамадзян, якія на дзень смерці лічыліся беспрацоўнымі і не стаялі на ўліку ў цэнтры занятасці.

Дапамога на арганізацыю пахавання падобнай катэгорыі грамадзян і іх дзяцей – непаўналетніх і навучэнцаў, грамадзян, асоба якіх невядомая, а таксама тых, хто вярнуўся з месц пазбаўлення волі, – растлумачыла намеснік загадчыка фінансавага аддзела гарвыканкома **Марына Бубен**, выплачваецца з мясцовага бюджэту – гарадскога і абласнога. Але ў бюджэце Маладзечна на 2002 год падобныя сродкі не прадугледжаныя.

**Іван МЁДАЎ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 22 жніўня | 29 жніўня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1842,00 руб. | 1847,00 руб. |
| Еўра | 1806,82 руб. | 1811,54 руб. |
| Злоты | 445,52 руб. | 442,77 руб. |
| Літ | 523,33 руб. | 524,49 руб. |
| Расійскі рубель | 58,34 руб. | 58,50 руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1860-1875 руб. | 1850-1875 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 21.08 | 28.08 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | 10990 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 700 | 680 |
| Грэчка, 1 кг | 530 | 530 |
| Цукар, 1 кг | 820 | 820 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 1200 |
| Алей, 1 л | 2000 | 1850 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 400 |
| Кава "Пеле", 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 600 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 700 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 550 | 600 |
| Капуста, 1 кг | 450 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 1600 | 1800 |
| Апельсіны, 1 кг | 1450 | 1500 |
| Агуркі, 1 кг | 650 | 450 |
| Памідоры, 1 кг | 700 | 720 |
| Перац, 1 кг | 1000 | 800 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 400 |
| Морква, 1 кг | 450 | 500 |
| Дыня, 1 кг | 1100 | 1300 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 500 | 550 |
| Смятана, 1 л | 1500 | 1800 |
| Масла, 1 кг | 3800 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 2400 | 2200 |
| Чарніцы, 5-літровае вядро | 5000 | 7500 |
| Алыча, 5-л. вядро | 1000 | 1000 |
| Брусніцы, 5-л. вядро | 7000 | 8000 |
| Слівы, 5-л. вядро | 3000 | 3000 |
| Абляпіха, 5-л. вядро | | 5000 |
| Дурніцы, 5-л. вядро | | 5000 |
| Чарнаплодная рабіна, 5-л. вядро | | 3000 |

■ ЖНІВО-2002

# Камбайнеры пафарсяць у касцюмах

**МЯДЗЕЛ. У мінулую суботу ў райцэнтры адбыліся «Дажынкі». Грашовыя прэміі і дыпломы райвыканкома атрымалі лепшыя ўдзельнікі жніва.**

А камбайнеру з калгаса «Будслаўскі» Івану Баркоўскаму і яго памочніку 16-гадоваму **Анатолю Катковічу**, якія найбольш у раёне намалацілі збожжа, быў яшчэ падарунак. Шэфы з Савецкага раёна Мінска ўручылі кожнаму па касцюму, што пашылі на адной з лепшых фірмаў сталіцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ПАСЛУГІ

# Лезьце пад ваду

**МЯДЗЕЛ. З пачатку сезона ў нацпарку «Нарачанскі» прадалі 102 пуцёўкі на падводнае паляванне.**

Дазволена яно на азёрах Мядзел, Рудакова і Воўчына. На дзень пуцёўка каштуе пяць тысяч рублёў, на пяць – дваццаць тысяч. Ацэньваюць, што ў гэтага віду адпачынку – добрыя перспектывы. Магчыма, на наступны год з'явіцца адмысловы тур для аматараў пагружэння пад ваду.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Лясгас – планавая гаспадарка

**Вілейскі раён – адзін з буйнейшых у Мінскай вобласці. Яго лясное багацце складае 89 тысяч гектараў.**

З такой гаспадаркай цяжка ўправіцца, аднак прамысловая дзейнасць Вілейскага лясгаса трымаецца на добрым узроўні і паступова развіваецца. Аб'ём выпрацоўкі драўніны ў параўнанні з першым паўгоддзем 2001 года вырас на 11,5%, а экспарт склаў 132% да ўзроўню мінулага года. "Рэцэптамі" паспяховай працы дзеліцца галоўны ляснічы Вілейскага лясгаса **Канстанцін Шатрапка**.


Фота IREX/ProMedia.
**Разліковая лесасека Вілейскага лясгаса дае каля сотні тысяч кубаметраў драўніны ў год.**

**— Канстанцін Генадзьевіч, праца на экспарт ваш асноўны накірунак?**

— Не, мы працуем і на ўнутраны рынак. З замежных партнёраў можна назваць Венгрыю, Літву. Туды мы накіроўваем драўніну і пiламатэрыялы. Усе работы вядуцца з ведама Беллесэкспарту і Камітэта лясной гаспадаркі. Напрыклад, разлік аб'ёмаў вытворчасці ці велічыні пастаўкі. Унутры Беларусі адпраўляем сыравіну на Светлагорскі цэлюлозна-папяровы камбінат. Калі патрэба ў драўніне ёсць у мясцовых дрэваапрацоўчых заводаў, напрыклад, у "Буддэталяў", выдзяляем для іх дзялянку з ляснога фонду, і яны працуюць там самі.

**— Якія пароды драўніны ў асноўным ідуць на продаж?**

— Найбольшым попытам карыстаецца хвоя. Яе добра купляюць і ў Беларусі, і за мяжой. Наогул, на экспарт сёлета адпраўлена 7184 кубічныя метры сыравіны і 590 кубічных метраў піламатэрыялаў.

**— Ці мае лясгас свае перапрацоўчыя прадпрыемствы?**

— Прадпрыемствы – гэта гучна сказана. Ёсць два цэхі: адзін у вёсцы Рэчкі, другі ў Ільі з сучасным фінскім абсталяваннем.

**— Як вызначаецца колькасць лесу, якую можна або трэба высекчы?**

— Ёсць так званая разліковая лесасека. Яна фарміруецца з дапамогай навуковых метадаў і вызначае аб'ём лесасечнага фонду, гэта значыць, спелы лес, які трэба высякаць. Лесасека вызначаецца кожныя дзесяць гадоў, апошнюю склалі ў 1998 годзе. Цяпер яна складае 92,5 тысячы кубічных метраў у год. Але за мінулы год высеклі на 10 тысяч кубічных метраў больш. На такое павелічэнне неабходнага аб'ёму ўздзейнічаюць і прарэджванне сухастою, і высечкі маладняку да дваццаці гадоў (для забеспячэння нармальнага росту), і ачыстка пасля пажару, і шмат іншага. Прагноз на 2008 год дапускае павелічэнне спелага лесу ў паўтара раза.

**— Як часта здараюцца лясныя пажары?**

— За паўгода ўжо сорак тры выпадкі. Але, на шчасце, лесу яны знішчылі няшмат: 3,8 гектара, або па 0,09 гектара на адзін выпадак.

**— Асноўныя віноўнікі, напэўна, людзі, што адпачываюць?**

Так. Прычым сустракаецца як выпадковае, так і наўмыснае падпальванне. У лесе цяжка злавіць вінаватага. Ішоў чалавек, кінуў запалку і пайшоў сабе далей. Аднак па фактах падпалаў супрацоўнікамі міліцыі складзены пяцьдзесят два пратаколы. Таму ўсё ж такі лепш не адносіцца да лесу абыякава, бо і дзяржаве наносіцца шкода, і свая кішэнь лягчэе.

**Аляксей ЧУБАТ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Вайна пра сябе нагадвае

**ВАЛОЖЫН. На мінулым тыдні ў вёсцы Ганчары мясцовы жыхар падчас уборкі ўраджаю ў сваім агародзе знайшоў снарад часоў другой сусветнай вайны.**

Яго павінна абясшкодзіць брыгада мінскіх сапёраў. Але мінчане пакуль не прыехалі. Снарад ахоўвае мясцовая міліцыя.

Таксама на мінулым тыдні 15-гадовы вучань Сакаўшчынскай сярэдняй школы атрымаў пашкоджанні ад патронаў, якія хлопец знайшоў у лесе. У час, калі падлетак разбіраў патроны, адзін з іх выбухнуў і параніў вучня. Якога з апёкамі шыі і грудной клеткі даставілі ў бальніцу. Пашкоджанні былі не надта сур'ёзныя. Хлопца ўжо выпісалі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

 

■ ПАРТРЭТ

# Дзень Пятра і Паўла

**МАЛАДЗЕЧНА. Спорт не ведае межаў, мова яго не мае патрэбы ў перакладчыках. Спартсмен спартсмена пазнае здалёку.**

Менавіта так і адбылося у нашай гісторыі, галоўнымі героямі якой сталі падданы яе Вялікасці Каралевы Вялікабрытаніі Пётр Чайкоўскі і грамадзянін Рэспублікі Беларусь Павел Сталбавенка.

## Пётр

Гэта яго трэці прыезд на радзіму. Першы супаў са жнівеньскім путчам 1991 года, і Пётр Чайкоўскі тады падумаў нават, што зрабіў вялікую памылку, калі рашыў-такі адправіцца з Англіі ў Беларусь. Палітычную нестабільнасць дапаўняла эканамічнае бязладдзе – чэргі за самымі неабходнымі прадуктамі харчавання, дэфіцыт тавараў, чаго важныя жыхары туманнага Альбіёна не памяталі ад самай вайны. Але покліч роднай зямлі, нястрымнае жаданне ўбачыць магілы бацькоў і родных аказаліся мацней за ўсе апасенні; і Пётр Іванавіч ад той пары яшчэ двойчы наведваўся ў родную вёску Выгалавічы, што на Мядзельшчыне, у Мінск, у Маладзечна. Менавіта адсюль у 1943 годзе яго, шаснаццацігадовага юнака, фашысты вывезлі ў Аўстрыю. Працаваў на мясцовага бюргера, пасля прыходу войск саюзнікаў запісаўся ў польскую Армію Краёвую. Затым трапіў у Англію. Чаму туды, а не на радзіму – асобная тэма. Ніякай работы не цураўся беларус Чайкоўскі. У 1961 годзе спаткаўся з будучай жонкай, італьянкай па нацыянальнасці, з якой і асеў стала ў Лідсе – цэнтры графства Уэст-Йоркшыр. У 1991 годзе, калі споўнілася 60 год, выйшаў на пенсію. А гадоў за дзесяць да таго заняўся марафонскім бегам, каб падтрымаць здароўе. Многа разоў прымаў удзел у Лонданскім марафоне, быў сярод пераможцаў у сваёй узроставай групе (варта сказаць, што іншым разам удзел у забегах бяруць да 40 тысяч чалавек). Ахвяраваныя на марафон грошы – ёсць у Англіі такі звычай – ідуць на розныя дабрачынныя мэты. Апошнім часам наш герой ды іншыя англійскія беларусы накіроўваюць іх на лячэнне і аздараўленне "чарнобыльскіх" дзетак. "А як жа інакш, калі лічыш сябе патрыётам Беларусі, калі любіш Беларусь", – пераканаты Пётр Чайкоўскі.




Фота Аляксандра ЛАЗОЎСКАГА.

**Майкі на памяць. Колькі яшчэ кіламетраў прабягуць у іх Пётр (справа) і Павел.**

## Павел

Калі на рахунку Пятра 34 марафонскія дыстанцыі ў 42 кіламетры 195 метраў ды некалькі соцень "паўмарафонаў", то Павел Сталбавенка любіць бег у прынцыпе, кожны дзень "наразае" кругі па Маладзечну і яго ваколіцах. Падчас адной з прабежак у гарадскім парку і пазнаёміўся ён з Пятром. Разгаварыліся, дамовіліся аб сустрэчы. І мінулы панядзелак стаў днём Пятра і Паўла: гаварылі пра жыццё, пра спорт, разглядалі фотаздымкі, абмяняліся майкамі з марафонскай сімволікай, жартавалі... Не абышлося і без кілішка-другога самаробнага віна – Павел Сталбавенка назаўтра ад'язджаў у Крым, у Еўпаторыю, судзіць першынство краін СНД па гарадках сярод юніёраў. Гэтым адметным відам спорту Павел захапіўся яшчэ ў 1954 годзе, дакінуў біту да "Майстра спорту СССР". Цяпер не столькі сам выступае, колькі судзіць спаборніцтвы самых высокіх рангаў. Дарэчы, як і Пятра, спорт выратаваў яго ад многіх хвароб, загартаваў фізічна і духоўна. "Дзякуючы спорту, – без усялякага жарту гаворыць, – мяне вось ужо 42 гады ў знакамітай нашай "Спадчыне" трымаюць".

У туманнай Англіі займацца спортам модна і прэстыжна. У пасчарнобыльскай Беларусі нямала знойдзецца тых, хто не супраць пакпіць са спартсменаў-аматараў. Няўжо прыклад Пятра і Паўла, не біблейскіх, а нашых сучаснікаў, не навука?

**Іван МЁДАЎ.**

## Табло

**■ ФУТБОЛ**

**МЯДЗЕЛ. Прайшоў чэмпіянат раёна.**

Першае месца заняла каманда са Svіра, якая ў фінальным матчы па пенальці адолела футбалістаў тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА**

**22 жніўня. Асіповічы – Смаргонь 0:2.**

Галы: Налівайка (33, 55).

**25 жніўня. Смаргонь – Тарпеда-Кадзіна 0:0.**

Пасля 20 тураў смаргонцы маюць 19 ачкоў і знаходзяцца на 13-м месцы сярод 16 каманд.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ**

**31.08 Смаргонь – Хімік (Светлагорск)**
У першым крузе 0:0

**31.08 Забудова – Спартак-ВАР-Днепр (Шклоў)**
+0=2-1 2-4. У першым крузе 0:0

**01.09 (дублі) Маладзечна-2000 – Тарпеда (Жодзіна)**
У першым крузе 1:2 (Грыхуцік)

**02.09 Маладзечна-2000 – Тарпеда (Жодзіна)**
+3=0-1 6-3. У першым крузе 0:2

**04.09 Смаргонь – Лакаматыў (Мінск)**
У першым крузе 0:1

**04.09 Палессе (Мазырскі раён) – Забудова**
+2=1-0 8-4. У першым крузе 2:2 (Савіцкі, Відрук)

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Буйное паражэнне зробіць восень гарачай

**24 жніўня. Славія (Мазыр) – Маладзечна-2000 3:0**

Галы: Кліменка (45, 67), Лешанюк (71).

Суддзя: Вадзім Жук (Мінск), 300 гледачоў.

Макрыцкі
Смірноў (Грыхуцік, 58) Дараховіч
Сысой Лявончык (Мятліцкі, 79)
Карпіленка (Калянюк, 62)
Азява
Дрозд Пятроўскі
Азаронак
Сцепановіч (кап.)

Запасныя: Альховік, Рубацкі, Антановіч, Невядомскі.

## Гульня

Зыход гульні вызначыў 19-гадовы нападаючы гаспадароў Кліменка, які забіў два галы. Дарэчы, усе ўзяцці маладзечанскіх варот былі з межаў штрафной. Напярэдадні ж Макрыцкі зрабіць нічога не здолеў.

## Барацьба за выжыванне

Гульня ў Мазыры канчаткова развеяла ілюзіі наконт лёсу маладзечанцаў у гэтым сезоне. Спакойнага жыцця ў іх не будзе. За права прадоўжыць сваё мучэнні ў вышэйшай лізе і на наступны год будуць "змагацца" толькі дзве каманды: "Маладзечна-2000" і "Лакаматыў-96". Астатнія два кандыдаты на вылет – "Зорка" і "Славія" – узмацнілі склад вопытнымі гульцамі і глядзяцца больш стабільна. Хутчэй за ўсё, за некалькі тураў да заканчэння чэмпіянату гэтыя дзве каманды датэрміновa вырашаць пытанне аб захаванні сваёй прапіскі ў мацнейшым дывізіёне яшчэ на год.



Фота Міхалая ХАДАСЕВІЧА.

**Якую перспектыву бачыць нападаючы "Маладзечна-2000" Віталь Макрыцкі? Ці адновіць калісьці клуб поспехі 1991 года.**

## Ці патрэбная такая вышэйшая ліга?

Можа, гэта і парадокс, але вышэйшая ліга па сутнасці непатрэбная ні маладзечанцам, ні "Лакаматыву-96". Без належнага ўзмацнення і ў 2003-м годзе каманда-"шчаслівчык" будзе прайграваць усім запар. А хто ж пра балельшчыкаў падумае? Ці цікава ім назіраць за чарговымі паражэннямі нічыімі сваёй каманды? У Маладзечне футбол як відовішча даўно страціў побыт. На стадыён ходзяць толькі сапраўды аматары футбола. Зніжэнне цаны білета з двух з палова да тысячы рублёў не дабавіла балельшчыкаў на трыбуны. Мяркую, што не дапаможа тут і бясплатны ўваход.

Успомнім пачатак 90-х. На футбол хадзілі сем'ямі. Бо там можна было ўбачыць відовішча. Дзесяць гадоў таму маладзечанскі стадыён быў самы наведваемы ў краіне. Цяпер пасля ўбачанай гульні рызыка атрымаць чарговы стрэс блізіцца да ста працэнтаў. Уявіце сябе на месцы футбалістаў. Ці цікава было б вам выходзіць на поле для таго, каб змагацца за нічыю? Нават калі б за гэта і плаціць зарплату. Тым больш, што спартсмены, а тым больш футбалісты – славалюбівыя людзі, якія не любяць прайграваць.

Добра, пашанцавала абаронцу **Дзмітрыю Молашу**, які прыйшоў у "Маладзечна" вясной 99-га у 18 год. Тады каманда прайгравала ўсім, прапускала шмат, і Молаш не вельмі вылучаўся сярод астатніх абаронцаў. Дзмітрыя запрыкмеціў трэнер аднаго з лідэраў чэмпіянату БАТЭ, і на наступны год абаронца перайшоў туды. Прабіўся ў склад, пачаў забіваць, цяпер з'яўляецца адным з перспектыўных маладых абаронцаў краіны, кандыдат у маладзёжную зборную Беларусі, добра згуляў супраць знакамітага "Мілана". А ўсё ад таго, што трапіў у каманду-пераможцу, дзе гульцы, у тым ліку і абаронцы, могуць ствараць, а не толькі разбураць пад страхам паражэння. А хто ведае, можа, той самы **Сяргей Дрозд** не менш таленавіты за Молаша?

## Што рабіць з Макрыцкім?

У гульні супраць "Славіі" трэнер "Маладзечна-2000" **Аляксандр Кісцень** выбраў гульню ад абароны ў разліку на доўгія пасы наперад Макрыцкаму, які, на думку трэнера, мог раз-другі збегчы ад абаронцаў мазыран і, калі пашанцуе, забіць гол. Гэта было ў вышэйшай ступені наіўным. Ну, не можа пакуль забіваць Макрыцкі ў вышэйшай лізе! Колькі разоў наступалі на адныя і тыя граблі і **Румбуціс**, і Кісцень. Віталь Макрыцкі нападаючым гуляе з дзяцінства. І рэгулярна забіваў. Але толькі за каманды ДЮСШ і "Забудову". Забіваў і ў міжсезонні. Той жа "Забудове" летам ў дзвюх гульнях шэсць галоў забіў. У афіцыйных матчах сёлета ён забіў толькі "Белшыне". І не растраціў жа Віталь бамбардзірскія навыкі! Тут трэба папрацаваць ці над псіхалогіяй гульца, ці змяніць яго пазіцыю на поле, ці змяніць яму каманду. Вось дзе праца трэнера! А выставіць на гульню супраць "Славіі" дзевяць абаронцаў можа і аўтар гэтых радкоў. Прытым ачкоў каманда менш бы сапраўды не набрала.

## Як далей гуляць?

Па трох гульнях, у якіх каманду ўзначальваў Аляксандр Кісцень, за ім не заўважалася вялікага трэнерскага таленту. Па якім крытэрыям ацэньваецца работа трэнера? Вынік і гульня каманды, уменне гульцоў перастройваць тактыку ў залежнасці ад саперніка і ходу гульні. Часцяком геніяльны трэнер адной заменай можа выратаваць гульню. Што мы бачым? Маладыя маладзечанскія гульцы "рубіліся", пакуль ёсць сілы, а потым гуляюць на адбой да фінальнага свістка. Дык дзе ж тут тактыка? Ніводная з замен не ўзмацніла гульню каманды.

Зразумела, многае вырашае і выканаўчае майстэрства, якога, дапусцім, і не зашмат у гульцоў гэтага склада. Але ўсе ведалі, што цудаў не будзе, і не прыйдуць сёлета ў клуб вопытныя і вядомыя гульцы. Працаваць прыйдзецца з тым, хто застаўся.

Наконт тактыкі. Упэўнены, што не дасць належнага выніку цяперашняя гульня ад абароны. З чацвёркі абаронцаў трое – 1983-84 гадоў нараджэння, у якіх гэты сезон – дэбютны ў вышэйшай лізе. Таму верагодныя памылкі, допушчаныя хаця б адным з абаронцаў за ўвесь матч, вельмі высокая. А памылка можа абярнуцца голам у свае вароты. Успомнім, што сёлета "Маладзечна" не прапускала толькі ў сваім дэбютным матчы.

Таму трэба зыходзіць з таго, што хаця б адзін гол, але каманда прапусціць. Значыць, трэба забіваць таксама хаця б аднойчы. Каму? Добра, што ёсць **Сідарэнка**, які забіў у гэтым чэмпіянаце пяць галоў. Але гэтага мала. Не выйшаў ён супраць "Славіі", і атрымалася, што момантаў забіць гол у каманды і не было. Магчыма, наперад вылучыць некага з паўабаронцаў. Напрыклад, Сысоя, які забіваў двойчы, ці Азаронка, ці яшчэ некага. Можа, Грыхуціка з дубля.

Мэта гэтага артыкула – не вучыць сваёй справе маладзечанскіх трэнераў. Проста погляд з боку. Лічу, што патрэбныя перамены. А так склад каманды і пазіцыі гульцоў можна адгадаць амаль на сто працэнтаў. Усё ж такі трэнер павінны быць творчым чалавекам.

Мы з сябрам незалежна адзін ад аднаго зрабілі прагноз на матч "Славія" – "Маладзечна-2000". Абодва паставілі лік 3:0. І не скажаш, што мы не патрыёты сваёй каманды. Проста дасведчаныя ў футболе прагнозе.

## Вынікі 17-га тура

"Белшына" – "Тарпеда-МАЗ" 3:2, "Дынама" (Мн) – "Лакаматыў-96" 5:1, "Тарпеда" – "Днепр-Трансмаш" 2:0, "Дынама" (Бр) – БАТЭ 0:1, "Шахцёр" – "Зорка-ВА-БДУ" 2:1, "Нёман" – "Гомель" 2:1.

## Турнірная табліца

| | |
|---|---|
| 1. Нёман | 39 |
| 2. БАТЭ | 38 |
| 3. Тарпеда-МАЗ | 34 |
| 4. Шахцёр | 31 |
| 5. Днепр-Трансмаш | 30 |
| 6. Дынама (Мн) | 29 |
| 7. Тарпеда | 29 |
| 8. Гомель | 27 |
| 9. Белшына | 24 |
| 10. Дынама (Бр) | 21 |
| 11. Зорка-ВА-БДУ | 10 |
| 12. Славія | 10 |
| **13. Маладзечна-2000** | **8** |
| 14. Лакаматыў-96 | 6 |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

